Hety numar (9) „Šlachu Moładzi“ z dadatkam: „Інструкцыі як дамагацца дзяржаўнай публічнай беларускай школы“.

Hod VIII. Vierasień 1936 h. № 9.

# Шлях Моладзі
# Šlach Moładzi

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.“

ЯНКА КУПАЛА.



VILNIA

Biełaruskaja Drukarnia im. Franciška Skaryny — Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2.

ЗЬМЕСТ № 9:



**УВАГА! Хто з нашых даўжнікоў не перашле далучаным да гэтага нумару разрахунковым пераказам належных нам за часапіс грошай, таму высылка „Шляху Мол.“ будзе стрымана.**

**Адміністрацыя „Шляху Моладзі“.**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — E, e. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | W, w, V, v—B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

**„Шлях Моладзі“**

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Складка на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Год VIII. | Вільня, Верасень 1936 г. | № 9(95).

**Міхась Машара**

## ТРЭБА НАМ ШКОЛУ!

*(На пачатак школьнага году).*

Дружа любімы,
Многа цярпім мы —
Школы ня маем сваей.

Роднае слова,
Матчына мова, —
Што за іх ёсьць даражэй?

Родную школу
Ў вёскі і сёлы
Мусім мы, браце, здабыць.

Гэтак, як спалі,
Спаць нельга далей —
Трэба нам дзетак вучыць.

Мова чужая
Душы ламае,
Душы калечыць на век.

Трэба нам школу
Ў вёскі і сёлы, —
Годзі з нас робіць калек!

1936

---

**М. Танк**

## ВОСЕНЬНЮ.

І пацягнуліся дні —
восені зрэбныя ніткі,
з іх верасы, палыны
вецер сумуючы выткаў.

Дзень, як матыль, ападаў
крыльлі спаліўшы за горы;
месяц дугу паласкаў
выехаўшы на вазёры.

Золата — лісьце зьвіняць,
ціха бярозы ўздыхаюць..
Дрэміш, Краіна мая,
быццам жняя маладая.

Вочы закрыла — зару,
дзе жураўлі адляталі,
жменяй сыпнула ўгару
дзіўныя зоры — каралі.

Сяньня ня трэба табе—
у верасох расьцьвітаеш,
а на вясеньняй сяўбе
ў косы іх зноў паўплятаеш

Зоры далёка зьвіняць...
Грудзі бадзёра ўздыхаюць.
Дрэміш, Краіна мая,
дзіўная і маладая!

Ціха іду паміж дрэў...
Лісьце, як крыльлямі сояк,
ў сэрцы збудзілі напеў,
сьнегам завееных хвояк

зноў у грудзёх зацьвіло
шмат васільковага разам:
маці старая, сяло
сьвятам убрана дзяразай...

Песьні далёка зьвіняць...
Песьняй і я прывітаю
дзень твой, Краіна мая,
зорная і маладая!

5.IX.36.

# Усёй беларускай моладзі пад развагу

*(З прычыны 30-тых угодкау існаваньня бел. легальнае прэсы).*

Радасьць і дума агартае кожнага беларуса на ўспамін аб бібліі, выданай пабеларуску нашым слаўным друкаром др. Фр. Скарынай у 1517—1519 г. Радасьць і дума агартае нас, калі гаворым аб зборах законаў у Літоўскім Статуце, пісаных пабеларуску ў XVI ст. Сум жа і жаль сэрца сьціскае на ўспамін аб заняпадзе, і крыжовай адраджэнскай падарожжы нашага народу.

Сёлета прыпадаюць 30-я ўгодкі існаваньня легальнае беларускае прэсы. Бо-ж толькі 30-ць год таму назад, у м цы верасьні п явіўся ў Вільні першы легальны беларускі часапіс „Наша Доля", а пасьля яе закрыцьця—„Наша Ніва". Радасны гэта і важны беларускі юбілей. На ўспамін яго аднак жудка робіцца, калі ўявім сабе, што толькі пасьля рэвалюцыі 1905 г., расейскі царскі ўрад, валадарыўшы тады нашым краем, дазволіў друкаваць пабеларуску. Сумна так жа робіцца, калі ўявім сабе, што многія штодзенныя газэты суседніх народаў даўно адсьвяткавалі ўжо 100-я ўгодкі свайго легальнага існаваньня, ды што спробы выдаваньня беларускіх газ т у 1863 г. („Mużyckaja Prauda") К. Каліноўскім, а ў 1884 г. („Гомон") беларускімі народавольцамі мусілі адбывацца нелегальна, у падзямельлі.

Усё гэта належа ўжо да мінуўшчыны. За 30-ць год беларуская легальная прэса зрабіла вялікі крок наперад. Але міма гэтага, трэба сказаць, што сучаснае палажэньне бел. прэсы дужа цяжкае. Міма таго, што сяньня толькі ў Вільні можна налічыць да 20 беларускіх часапісаў, трэба сказаць праўду, што з беларускай прэсай кепска і, кепска ня дзеля таго толькі, што бел. часапісы выходзяць часта белабокімі, што рэдактаром нашым гразіць часта арышт і Бяроза Картуская... Ня будзем аднак тут нікога крытыкаваць, адно коратка кінем вокам на некаторыя справы нашага часапісу—„Шл. Моладзі".

„Шлях Моладзі" выходзіць акуратна ўжо 8-мы год. Дакладаем мы ўсіх стараньняў, каб быў ён і цікавым, і карысным і танным. Знаходзіцца многа ахвотнікаў чытаць. Многа маем ідэовых супрацоўнікаў з пяром і прыяцеляў. Але... Але.. нажаль, падпішчыкаў акуратных ня шмат. І як ня сумна, а трэба сказаць, што часапіс існуе дзякуючы бадай толькі ахвярнай і мазольнай працы трох друкароў.

Галоўны, вясковы наш чытач, з аднае стараны голы, а з другое стараны, прывыкшы да дармовых газэт, просіць прысылаць яму часапіс, але плаціць за яго ня хоча прывыкаць, а бяз гэтага ня можа нармальна існаваць ніякі часапіс. Бяз гэтага мы і праўды не даведаемся і дабра не зазнаем. Бо трэба ведаць, што як толькі родная школа можа сапраўды даць нармальным спосабам і найхутчэй асьвету, так толькі

родная газэта можа добра паінфармаваць, як што дзе робіцца і належна бараніць інтарэсаў свайго народу.

Аб гэтым беларусам пара ведаць. І пара ўжо даўно ведаць, што абавязкам, а ня ласкай ёсьць падтрымліваць сваю прэсу. Аб гэтым павінна ўжо ведаць і беларуская моладзь.

Праўда, ёсьць у нас і акуратныя падпішчыкі, але лік іх (ня поўная 1000) у параўнаньні да агульнай колькасьці Беларусаў у Польск. Дзяржаве,—гэта жменька, коштам падпіскі каторых „Шл Мол." ня мог-бы нармальна існаваць і сам сябе ўтрымаць. А трэба йсьці да таго, каб так было. Пунктам нашага народнага гонару павінна быць стварэньне такіх варункаў, каб наша прэса была самастойная, каб яна ўзбагачвалася і разьвівалася. Каб мелі мы ня толькі кульгавыя тыднёвікі і месячнікі, але і вялікія свае штодзенныя газэты, як маюць іх іншыя народы, як маюць іх украінцы, каторых палажэньне мала лепшае ад палажэньня Беларускага народу. — Бо прэса сяньня— гэта вялікая і магутная зброя. І тут для зьдзейсьненьня нашых плянаў ня трэба пасьвячаць многа энэргіі. Трэба толькі прысылаць самому акуратна падпіску і другіх заахвочваць выпісваць свае часапісы, каб яны разыходзіліся ня ў сотнях і тысячах, але прынамся ў дзесятках тысяч экзэмпляраў.

Многа, праўда, і прыкрасьцяў маюць, і то з усіх бакоў, чытачы беларускіх газэт. Многа ёсьць розных перашкод. Нельга ім аднак падавацца. Бо калі мы будзем адважна чытаць і выпісваць свае часапісы, калі цьвёрда будзем стаяць пры сваім, дык няпрыемнасьці і перашкоды самі згінуць.

Шмат яшчэ хто кажа, што ён ахвотна заплаціў-бы падпіску, але ня можа, бо ня мае ані граша. Праўда, цяжкае нашае палажэньне, але ўсё-ж пры добрай волі, калі не аднаму, дык у складчыну можна заплаціць за такі „Шлях Моладзі" **2 зл. падпіскі ў год.**

Мы апошнім часам стараемся „Шлях Моладзі і павялічываць і ілюстрацыі даваць, якія здабываем фармальна жабруючы і як мага высіляючыся. Дык няхай-жа і ўсе нашы чытачы, якія не аплацілі падпіскі, натужацца і няхай далучаным да гэтага нумару разрахунковым пераказам выпаўняць свой доўг адносна свайго часапісу Хто-ж гэта ўжо зрабіў, няхай перадасьць пераказ свайму знаёмаму і заахвоціць яго выпісаць „Шлях Моладзі".

„Наша Ніва" мела вялікае значэньне ў адраджэньні беларускага народу. Ад яе назову цэлы пэрыяд у нашай гісторыі названы „Нашаніўскім". Яна свой абавязак выканала. Нашымжа абавязкам ёсьць, між іншым, каб беларуская прэса стала на свае моцныя ногі, каб утрымлівалі яе падпішчыкі, каб была яна незалежнай і каб магла належна выпаўняць свой абавязак.

Мы сягаем да справаў вялікіх, дык стварэма перадусім наш часапіс вялікім і стараймася, каб быў ён у руках кожнага маладога беларуса!...

# Što rabić i jak rabić

U prošłym, № 7-8, „Šlachu Moładzi“, u artykule: „Imknieńni i damahańni biełaruskaje moładzi na najbližejšuju budučyniu“, vyjavili my svaju prahramu pracy ŭ sučasny mament. Tam było skazana, da čaho my imkniomsia, čaho damahajemsia, čaho chočam i što majem rabić. Tut-ža treba abhavaryć šlachi i sposaby, jakimi majem asiahać svaje mety.

Voś-ža pisali my tam, što napierad treba imknucca da stvareńnia arhanizacyi biełaruskaje moładzi, jakoj my nia majem. Dziela hetaha biazumoŭna treba jšče raz apracavać statut arhanizacyi bieł. moładzi i padać jaho na zaćvierdžańnie administracyjnym uładam, nie biaručy pad uvahu taho, jakija buduć vyniki. Nia majučy svaje arhanizacyi, biełaruskaja moładź pavinna pracavać u tych biełaruskich kulturna-praśvietnych arhanizacyjach, jakija isnujuć, prykładam, u hurtkoch Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury i T-va Bieł. Škoły. Treba ažyvić dziejnaść hurtkoŭ hetych arhanizacyjaŭ, katoryja isnujuć i treba zakładać novyja hurtki, nia hledziačy na toje, ci ich administracyjnyja ŭłady zaćvierdziać ci nie. Aprača BIHiK i TBŠ jość jašče ŭ Vilni arhanizacyi biełaruskich skaŭtaŭ. Praŭda, nia jość heta biełaruskija arhanizacyi samastojnyja, ale ŭsio-ž u ich možna pracavać dla bieł. spravy, a dziela hetaha treba takija-ž biełaruskija skaŭckija arhanizacyi zakładać na vioscy. (Jak heta rabić, napišam paśla, a kali-b chto-nieb udź užo chacieŭ heta viedać, achvotna na žadańnie painfarmujem jaho).

Urešcie bieł. moładzi treba tvaryć svaje bieł. hrupy samaadukacyi, katoryja vypisvali-b z bieł. kult.-aśvietnych arhanizacyjaŭ i kniharniaŭ biełaruskija knižki, lemantary i pravodzili aśvietnuju pracu. Takija hrupy moładzi pavinny supolna zakładać pryvatnyja bieł. biblijateki, vypisvać biełaruskija hazety, supolna viaści ŭśviedamlajučuju bieł. pracu, pryvatna vučyć małodšych i niahramatnych svaich kalehaŭ biełaruskaj hramaty i ahułam u takich hrupach pavinny chłopcy i dziaŭčata čytajučy knižki i hazety adny druhich aśviačać. (Vučyć pryvatna i aficyjalna pazvalaje prava ŭadzinočku i hrupami da 10 asob).

Treba tak-ža vykarystać dla biełaruskaje kulturnaje pracy isnujučyja ŭ nas polskija arhanizacyi moładzi, jak „Związek Młodej Wsi“, „Stowarzyszenie Młodzieży Katolickiej“ i inšyja. Hetyja arhanizacyi paŭstajuć u nas biaz našaj voli, dyk nam treba tak spravu stavić, kab jany rabili toje, što nam patrebna, a imienna: biełaruskija pradstaŭleńni, lekcyi, kab u ichnich biblijatekach i čytalniach byli biełaruskija knižki i hazety, kab na aśvietnych kursach vučyli jany biełaruskaje hramaty i h. d.

Apublikavanyja ŭ № 7-8 „Šl. Moł.“ našyja damahańni možna padzialić na dźvie katehoryi. Da pieršaj katehoryi zaličym tut spravy: ziamielnaha nadziełu, pracy, adčynieńnia biełaruskaha universytetu i źlikvidavanych bieł. siarednich škołaŭ, a taksama

spravu svabody, spravu prava vybarčaha hołasu i zabiaśpiačeńnia pryrodnaha prava Biełaruskaha Narodu na isnavańnie, jak asobnaj nacyi. — Ab hetych damahańniach nam zaŭsiody treba pamiatać, zaŭsiody ich padtrymlivać, publična vyjaŭlać, prymajučy ŭ formie rezalucyjaŭ na roznych sabrańniach i schodach, dzie tolki ŭdasca. — Hetyja damahańni faktyčna mohuć być zrealizavany ŭ sučasny mament tolki pry pomačy vyšejšych dziaržaŭnych uładaŭ, pry pomačy reformaŭ u šyrejšym raźmiery. I jany, biazumoŭna, buduć zrealizavany, kali masy buduć družna hetaha damahacca.

Da druhoj katehoryi damahańniaŭ zaličym usie inšyja našyja damahańni, ab katorych my pisali i katoryja na prośbu žycharoŭ abaviazany vypaŭniać ułady: školnyja, samaŭradavyja i kaścielna-carkoŭnyja.

Naprykład sprava rodnaje škoły. Jana zaležna ad uładaŭ školnych, jakija, što praŭda, nie śpiašajucca spoŭnić biełaruskija damahańni, adnak abaviazkam kožnaha biełarusa jość uściaž damahacca biełaruskaje škoły.—Viedajem,što sioleta biełaruskaje hramadzianstva asablivy kładzie nacisk na školnuju spravu. Dyk voś-ža ŭ zmahańni za rodnuju biełaruskuju školu nia moža nia prymać udziełu bieł. moładź, choć jana sama nia maje prava padpisvać i padavać školnym uładam deklaracyjaŭ. Bo my, moładź, možam tut šmat pamahčy, raspaŭsiudžvajučy školnyja druki, katoryja možna biazpłatna dastać-vypisać z Školnaha Sakratarjatu (Wilno, Królewska 3—8), pamahajučy zapaŭniać baćkom deklaracyi i zajavy da školnaha inspektara ih.d. Dziela taho, kab našy čytačy viedali. jak viaści školnuju bieł. akcyju, da hetaha numaru „Šl. Moł." dałučajem „Інструкцыю, як дамагацца дзяржаўнай публічнай беларускай школы".

Damahajemsia my biblijatekaŭ i čytalniaŭ z biełaruskimi knižkami i hazetami, damahajemsia narodnych damoŭ. Kab heta było zrealizavana, treba, kab nia tolki my. moładź, ich damahalisia, ale treba rabić zachady (ŭpływy), kab u hetaj spravie prymalisia adpaviednyja pastanovy na sielskich schodach, kab sołtysy damahalisia hetaha ŭ vołaści, a radnyja— ŭ vałasnych radach i sojmikach.

Sprava rodnaje movy ŭ śviatyniach taksama nia moža dalej lažać adłoham. Tut taksama možna było-b vynosić adumysłovyja pastanovy na schodach i ab ich paviedamlać mitrapolii. Ale najpraściej budzie, kali my voźmiem niekalki arkušaŭ papiery i na pieršym z ich napišam: „My žychary (padać nazovy miascovaściaŭ, nazoŭ parachvii, vołaści i pavietu) damahajemsia, kab u našaj carkvie (kaściele) kazańni byli havorany pabiełarusku, a tak ža, kab dadatkovyja nabaženstvy adbyvalisia taksama ŭ movie biełaruskaj". Pad hetkuju zajavu treba sabrać jak najbolš podpisaŭ (pry podpisie treba padać tak-ža miesca prabyvańnia) i vysłać jaje zakaznym (poleconym) piśmom na imia adpaviednaha archijepiskapa ci arcybiskupa.

Treba nam taksama damahacca biełaruskich aŭdycyjaŭ u Vilenskim Radyjo i heta tak-ža možna rabić piśmienna. Sabracca hrupaj, abo i adnamu, napisać adpaviednaje piśmo i kali mahčyma, naźbirać pad jaho bolš podpisaŭ i vysłać na adras: Do Dyrekcyi Stacji Nadawczej Polskiego Radja w Wilnie.

Uspomnienyja zajavy i piśmy možna pierasyłać i praz redakcyju „Šlachu Moładzi", kali-ž buduć jany vysyłacca biespasredna, dyk abaviazkava treba, kab moładź paviedamiła našuju redakcyju, bo my ab hetym budziem pisać i hetym samym taho, kaho treba, budziem prynukać da dziejnaści ŭ patrebnym kirunku.

Ahułam zaklikajem usiu biel. moładź abhavaryvać u svaich kruhoch, jak artykuł nadrukavany ŭ №7-8 „Šl. Mol." p. n. „Imknieńni i damahańni biełaruskaje moładzi na najbližejšuju budučyniu", tak i artykuł hety, i prosim u hetaj spravie prysyłać nam svaje papraŭki, dapaŭnieńni, krytyku, zaciemki, katoryja ŭ mieru mahčymaści budziem drukavać i pryjmać pad uvahu.

Dyk čakajem i zaklikajem da pracy!...

J. N.

---

**Андрэй Чэмер.**

# На родным палетку

5)

*
* *

Сонца хілілася к захаду. Нябывала вялікі фэст падыходзіў к канцу.

Хто меў сваякоў або блізкіх знаёмых у Зарэччы, — заяжджаў, або заходзіў да іх, рэшта расходзілася да хаты, або заставалася на 5-я ўгодкі каапэратывы „Грамада."

Шмат моладзі заходзіла ў народны дом, каб пагутарыць з дзяўчатамі і хлапцамі, пачытаць газэты, ды паграць у шашкі, шахматы або іншыя гульні.

Пад вечар заля, дзе мелася адбыцца ўрачыстасьць, пачала запаўняцца мясцовымі і прыезднымі людзьмі.

Грэчка, Сымон і Алеся ўвіхаліся каля гасьцей, разсаджвалі, меркавалі, каб усім было як найлепей.

А 7-й гадз. сцэна адкрылася, струнны аркестр заіграў „Ад веку мы спалі," усе паўсталі з мейсц.

На прыгожа ўдэкараванай сцэне зьявіўся настаўнік Грэчка з дакладам.

Гаварыў, як пачаўся каапэратыўны рух, якую ён адыгрывае ролю ў кожным народзе, а асабліва ў беларускім.

„Несарганізаваны народ гіне! — казаў ён. — І мы таксама загінем, калі не патрапім сарганізавацца.

— Працоўныя масы толькі тады могуць чакаць паправы свайго быту, калі самі яго возьмуць у свае рукі. Нас перагналі суседнія народы, сьпяшаймася-ж дагнаць іх, каб на мэце поступу і культуры ня быць апошнімі!..."

Далей успомніў пра першыя перашкоды ў арганізацыйнай працы, пра труднасьці і спосабы барацьбы з імі.

— А цяпер, — закончыў Грэчка, — галоўныя перашкоды маем за сабою. Цяпер селянін бачыць, хто яго праўдзівы прыяцель, а хто вораг. Цяпер селянін ведае, што праз каапэратыў ён будуе сам сваю долю!

Дамагаліся мы роднае школы, выбудавалі школьны будынак, разбудавалі каапэратыў, а цяпер збудуем народны дом, з'электрыфікуем сяло і пакажам сьвету, што патрапіць даканаць усімі пагарджаны мужык-беларус!"

Пасьля кароткай пярэрвы сцэна йзноў адкрылася, паказваючы прысутным п'еску „На вёсцы."

Прыгожая п'еса да глыбіні душы праняла кожнага глядзельніка. Ігра драматычнай сэкцыі пры каапэратыве „Грамада" сапраўды станула на вышыні заданьня! Радасны настрой напоўніў сэрцы грамадзян, бачачых на ўласныя вочы, што можна даканаць уласнымі сіламі, калі толькі ёсьць, ахвота і цярплівасьць!...

Пасьля п'ескі мелася адбыцца „Лявоніха."

Музыка ўдала заіграла вясёлы родны танец і на сцэне зьявіліся 4 пары танцораў у нацыянальных строях. Але... што гэта? Няўжо праўда?. .

Ну так, гэта Васіль!...

Васіль, які даўно ўжо адбыў „бадане", выехаў у далёкае места рабіць дактарат, акурат вярнуўся аканчальна на бацькаўшчыну і згаварыўшыся з Сымонам і Алесяй зрабіў усім такую неспадзеўку.

Гром воплескаў і радасныя крыкі павіталі Васіля, распачынаючага танец у першай пары з Алесяю. Ня можна было наглядзецца на плаўныя, пэўныя рухі, удала і з размахам выкананай Лявоніхі!... Захопленьню і пахвалам ня было канца...

Лявоніха кончылася, заслона апала. Але бура воплескаў і нязмоўканыя крыкі дамагаліся на сцэну танцораў. Зьявіліся. А наперадзе Васіль з Алесяю...

— Няхай жыве Васіль!.. — гукнуў хтось.

— Няхай жыве!!!... падхапіла грамада.

— На ўра яго!.. Хлопцы схапілі Васіля з Алесяю і ўміг падкінулі пад столь.

— Уррр... аааа!!! Уррр-ааа!!!...

Аж урэшце той папрасіўся, каб пусьцілі.

Між гоману і крыку пачуўся голас Васіля.

— Грамадзяне! У грамадзе сіла! Закладайце родныя арганізацыі! Закладайце каапэратывы!

Працаю і арганізацыяй збудуем Вольную Працоўную Беларусь! Хай жыве Беларускі Народ!

— Хай жыве!!!...— падхапіла грамада, аж вокны задрыжалі, аж усе пачулі, што жыве Беларусь і будзе жыць!

Канец.

# У краіне вазёр

*(Уражаньні з выбегу ў паўночную Віленшчыну).*

Частка нашага Краю, паложаная больш-менш 30 клм. на поўнач ад Вяльлі, мае свой спэцыфічны характар, розны ад іншых правінцыяў Беларусі. Гэта краіна вазёр— вялікіх, ахапляючых аж па некалькі дзесяткаў квадратных кілёмэтраў, і малых, але ня менш прыгожых, якія прыдаюць і так маляўнічым краявідам многа размавітасьці і хараства. А некаторыя з іх разьліваюцца доўгімі крутымі затокамі, якія неспадзявана вылазяць з-за ўзгоркаў і лясоў, песьцячы вочы падарожнага.

У гэты чароўны куток Беларусі выбраўся я з таварышам у пачатку жніўня, вярнуўшыся з выбегу беларускіх студэнтаў у Наваградчыну. Мэта цяперашняга выбегу — адведаць нашага слаўнага паэта, Міхася Машару, закінутага і напалавіну забытага ў далёкай Дзісьненшчыне.

На другі дзень падарожжы роварамі ўжо купаемся ў Вішнеўскім возеры. Чатыры кілёмэтры ад яго на захад цягнецца доўгім,бо аж каля 15 клм., рукавом прыгожае возера Сьвір. А за некалькі гадзін, мінуўшы Шэмятаўшчыну і пасоўваючыся пяшчанай дарогай між напалавіну высячаных сасновых лясоў, знаходзімся ў Кабыльніку і пакідаем па правым баку „беларускае мора“ — Нарач з яго сатэлітамі—вазёрамі Мястра, Баторын, Мядзял і цэлым радам іншых. Гэта першая паласа вялікіх вазёраў, што цягнуцца з-пад Вільні аж-да Мядзяла.

Нарач! Яно сяньня для нас цікавае й блізкае ня толькі дзякуючы сваей прыгожасьці і гігантычнай вялічыні, але й дзеля таго, што зьяўляецца ў ладнай меры фонам творчасьці нашага маладога паэта, Максіма Танка. Ён-жа й паходзіць адгэтуль. Было-б добра й яго адведаць, але, ня маючы пэўнасьці, ці ён дома, не заяжджаем з сваей дарогі і вандруем далей. Ад Кабыльніка да Паставаў краявід вельмі маляўнічы: узгоркі і дробныя лясы, сярод якіх раскінуліся цёмна сінімі плямамі дробныя азяркі. За Паставамі аж да Шаркаўшчыны раўніна, густа пакрытая графскімі лясамі. З усіх бакоў падымаюцца хмары дыму — гарыць лес. У ваднэй вёсцы паліцыянт на ровары заганяе сялян тушыць пажар... У далейшых вёсках сям-там спыняемся, каб напіцца вады і закурыць. Сяляне глядзяць спачатку недаверліва, бяручы нас за акцызьнікаў, што шукаюць самагонкі, або сэквэстратараў. Але пачуўшы ад нас беларускую гутарку, робяцца шчырымі, жаляцца, як усюды, на сваё цяжкае жыцьцё, а гасьцінная моладзь, якая тут сьвядомая нацыянальна, запрашае нас на сваю вечарынку...

Назаўтра пераяжджаем на пароме Дзісьненку і мінаем Шаркаўшчыну. Тут абраз няцікавы. На палёх і сена-

жацях пуста. Збожжа яшчэ нязжатае, ды і няма чаго жаць. Усё высахла на глiністай глебе, так што па аўсох і ячмянёх, ад якіх дзе-ня-дзе тырчаць кволыя недасьпелыя каласкі, пасецца быдла. Сяляне бядуюць і праклінаюць свой лёс. Ім пагражае голад...

Сярод гэтых пустых і манатонных палёў расьселася на правым беразе Дзісьненкі вёска Таболы, дзе жыве, — як пісаў беспрэтэнсыянальна адзін з тутэйшых дамарослых паэтаў, — „Міхась, паэт наш голы...“ Гэтыя словы, пісаныя з ноткай прыязнага гумару, дакладна малююць стан жыцьця



**Нарач.**

нашага маладога песьняра. Маленькая, адзінокая хацінка воддаль вёскі ды зямлі толькі, як на гарод, вось і ўсё ягонае багацьце. Выклікае ўсё гэта цяжкае ўражаньне і жаль, што беларускае грамадзянства ня хоча здабыцца на крыху большую помач аднаму з лепшых сваіх паэтаў...

Хутка праходзіць час за гутаркай на розныя грамадзкія і літаратурныя тэмы. Пераважна ўцякаем на бераг Дзісьненкі; аглядаем тут прыгожы абрыў каля вёскі Баўтрамеі, які, як інфармуе нас паэта, паслужыў фонам да ягонае поэмы „Русалкі.“

Робім некалькі кароткіх выбегаў у ваколіцу, ды едзім ужо разам з Машарай далей у Друю. Мінуўшы шаркаўскія

раўніны, краявід робіцца ізноў багатым і маляўнічым. Мінуўшы Новы Пагост, выяжджаем да Перабродзьдзя, акружанага вялікімі вазёрамі. Гэта ўжо другая паласа віленскіх вазёраў, якая на заходзе пераходзіць у знаныя браслаўскія вазёры.

Друя, якая была апошнім этапам нашага падарожжа, зьяўляецца ўзапраўды прыгожай мясьцінай. Тут ужо не вазёры, а быстрая Дзьвіна прыдае ёй многа хараства. З вакон кляштара беларускіх айцоў Мар'янаў, у якіх знайшлі мы гасьцінны прыпынак, абсэрвуем Дзьвіну ў месячную ноч. Крутой, шырокай стужкай пераліваецца яна серабром ад месячнага блеску і губіцца за ўзгоркамі і лясамі, паложанымі ўжо на тэрыторыі савецкай ці латышскай. Гледзячы на другі бераг ракі, дзе відаць такія-ж самыя беларускія вёскі, толькі пад уладаю Латвіі, ды абсэрвуючы на ўсходзе цёмныя абрысы лясоў, што знаходзяцца ўжо на тэрыторыі Саветаў, нязвычайна балюча прыпамінаецца рыжскі трактат.

У Друі спатыкаемся з ведамым беларускім пісьменьнікам, Вінцуком Адважным. Сквапна слухаем яго апавяданьняў аб Манджурыі і Кітаі, адкуль ён нядаўна вярнуўся. Гэтыя апавяданьні былі тымбольш цікавыя, што Адважны, ня гледзячы на доўгае прабываньне на чужыне, патрапіў захаваць у сваіх гэстах, мове і міміцы многа тыповых народных рысаў.

Назаўтра вяртаемся назад. Вяртаемся бадзёрымі і на'т вясёлымі, пазнаўшы адзін з найпрыгажэйшых куткоў роднага Краю. Ст.



Siaŭba pačałasia...

## „Banda zładziejaŭ”...

Usie badaj palaki i ŭsie badaj ichnija arhanizacyi, kožnaja na svoj sposab, chočuć „aščaślivić“ h. zv. „Kresy Wschodnie“, abo inačaj — biełarusaŭ. Jasna, „aščaślivieńnie“ henaje, biazumoŭna, idzie ŭ tym kirunku, kab z jaho była karyść Polščy. I tak adny nas „lubiać“ i chočuć adrazu pieraviarnuć na palakoŭ, druhija chočuć heta zrabić pastupova, pašyreńniem „kultury“, a inšyja majuć jašče inšyja sposaby.—Pieršyja našyja „pryjacieli“ heta abšarniki i endeki, a druhija heta tak zv. „demokraty“, „napraviačy“ z pad znaku sanacyi, što hurtujecca kala roznych sialanskich i kooperatyŭnych prouradavych arhanizacyjaŭ, a miž inšym i kala arhanizacyi: „Związek Młodej Wsi“. Sanacyjna „napraviackim“ aparatam źjaŭlajucca i tak zvanyja „Junaki“, katoryja stvorany ŭ Polščy na ŭzor niamieckich hitleraŭskich abozaŭ pracy moładzi.

„Junaki“—heta biezrabotnyja maładyja palaki sarhanizavanyja na vajskovy ład, jakich kormiać, vučać, voziać, zahaniajuć krychu da pracy i jakija na našych ziemlach majuć być miž inšym pašyralnikami polskaje kultury I dzieła hetaj, peŭna, apošniaj mety pryjaždžajuć jany da nas i dzieła hetaha, zdajecca, sioleta stajaŭ aboz „junakoŭ“ kala Šarkaŭščyny ŭ Dzisienskim paviecie, katory narabiŭ mnoha šumu. Kolki biady mieli našy sialanie z „junakami“, trudna i apisać, ale było adnak cicha, až pokul adzin z „junakoŭ“ nia łoh trupam. Paśla hetaha ŭ polskaj presie paŭstała farmalnaja bura. Orhan „napraviačy“ — „Kurjer Poranny“, — katory tak-ža staić i blizka ŭradu — apublikavaŭ vialiki artykuł, u jakim abzyvaŭ biełaruskich sialan kamunistymi, a vyvyžšaŭ „junakoŭ“. Kolki ŭ henym artykule było jłžy, śviedčyć moža fakt, što nia vytrymała navat abšarnickaje „Słowo“ i daśledziŭšy spravu na miescy, kinuła snop śviatła na pracu junakoŭ. Voś-ža ŭ № 223 „Słowa“ z dn. 15.VIII sioleta, J. M. polemizujučy z „Kurjeram Porannym“ hetak miž inšym pisaŭ:

„Sapraŭdy nia viedaju, ci maju bolš aburacca na nachalnuju jłžu, ci lepš biedavać nad niadolaj kraju, addadzienaha na hrabiež uradaŭ i apinii tych panoŭ, (u paniaćci katorych— r e d. „Š l. M ł.“) biełarus i kamunisty—heta toje samaje, a „junaki“ heta hieroi. Hieroi na stražy, katorych zabivajuć kamunistyja. Nie zmahu adnym ducham vykazać, kolki ŭ henym artykule „Kurjera“ jość many, a kolki ašukanstva ŭ hetaj byccam sialanskaj ideolohii. („Kurjer Poranny“ ličyć siabie pryjacielem sialan — r e d. „Š l. M ł.“) Nia možna tolki strasianucca ad abureńnia: „ale heta banda zładziejaŭ!“ Treba hetaha dakazać. Treba skazać praŭdu ŭ vočy“.

Ab što idzie?

Voś-ža — piša dalej J. M. — u Šarkaŭščynu prysłany z Sasnoŭca h. zv. „aboz junakoŭ“ u liku 87 asob, kab „mieć

hetuju padvojnuju vyhodu, što tam pracujuć, dzie jość davoli svaich biezrabotnych, ale zatoje niasuć u ciomnyja biełaruskija masy „tuju raboćuju Polšč“, dzie da ciapier nia baćyli jašče takich typaŭ. Što heta za typy? — A kali łaska: majuć z padatkaŭ 75 hr., da taho pamieškańnie, umunduravańnie.. kino, biely chleb i cełaje ŭtrymańnie. Za ŭsio heta abaviazany jany vykapać dzienna 2 metry rava, prydarožnaha pry šasie ŭ Hłybokaje. A adnak im hetaha, h. zn. zapłaty, zamała i jany pakidajuć pracu i ŭciakajuć, razychodziačysia pa krai i kradučy pa darozie, što im papadzie pad ruku. Uciakło hetak z abozu 32 asoby. Astaŭšyjasia 55 pracujuć, ale jak? Za 27 dzion 177 źviarnułasia ŭ izbu chvorych, z katorych chvorych akazałasia ŭsiaho tolki 16, a rešta 159—heta jość symulanty (prytvarajučysia chvorymi). Ale i hetyja „chvoryja“ chvarejuć na brucha, bo ŭ ich błaha pieravarvalisia syryja jabłyki, kradzienyja ŭ vakoličnych sadoch... Ale rabić? — Nie... kraduć tolki, napadajuć na žančyny, śpiavajuć polskija pieśni, kožny radok katoraj končycca słavami „K.... twoja mać!“ — Vybuch u Šarkaŭščynie pažar. „Junaki“ ratavali dom svajho dochtara. Vyratavali. Ale nazaŭtra spaściaroh dochtar, što niama niekalki hadzińnikaŭ i załatoha piara, vartaści kala 400 zł.. z jakimi paśla była cełaja historyja... Henyja-ž junaki vyhrabli (vykarškali) z popiału paśla pažaru bižuteryju i zołata miascovaha žychara V.Łatyšonka. I nia dziva, što henych „kulturtrehieraŭ“ źnienavidzieła miascovaje nasielnictva. Až narešcie ciarplivaść łopnuła. Stałasia:

U vioscy Marki, ułaśnik adnahektarnaj haspadarki i adnej karovy, pakidaŭ štodzień 4 litry małaka dla svaich šaściora dziaciej, kab hetaje-ž małako letniaj haračynioj nia śkisła staŭlaŭ jaho ŭ viadziorku ŭ niedalokaj krynicy. Padhledzieli heta ŭsiudybyvałyja „junaki“ i... pačali hetaje małako kraści nočču. Sielanin — biadak viedaŭ ab hetym, ale samavolna ničoha nie chacieŭ rabić. Naadvarot, pajšoŭ u aboz na skarhu. Ale henyja pany-letniki, zamiest taho, kab paciešyć pakryŭdžanaha, praviešci śledztva, vykinuli jaho z abozu. Što mieŭ rabić? Byŭ-ža jon baćkam tych dziaciej i ab ich prakarmleńnie pavinien byŭ dbać. Dyk pastanaviŭ pilnavać i nia dać małaka, a dziela hetaha schavaŭsia ŭ kryjoŭku z dvuma svajakami. Pryjšło piacioch „junakoŭ“. Kali vyskačyła troch sialan henyja ŭciakli, pakidajučy adnaho. Tady sielanin schapiŭ jaho za horła i trymaŭ, moža nie chacieŭ zadušyć, ale zadušyŭ...

Ciapier henyja try sialanie siadziać u vastrozie. Hrozić im kara śmierci“.

Hetak vyhladaje praŭda ab „kamunistych“ na biełaruskaj vioscy, pryhniečanaj horam i niadolaj i prahavitaściaj roznaha rodu „kulturtrehieraŭ“, ad katorych až čorna na našych ziemlach. Paśviedčańnie hetaje jość tym bolš cennaje, što pachodzić ad čałavieka, katoraha nijak nia možna zapadozryć u spryjańni kamunistam.

*n.*

## Справа арганізацыі „Саюзу Бел. Пісьменьнікаў“

Грам. М. Танк зацемкай п. н. „На новы шлях“, у аднэй з беларускіх газэт, парушыў, на мой пагляд, вельмі важную справу, а іменна справу арганізацыі „Саюзу Беларускіх Пісьменьнікаў“.

Згуртаваньне беларускіх працаўнікоў пяра прынясло-б, бязумоўна, вялікую карысьць ня толькі згуртаваным, але і ўсяму беларускаму народу. Дзеля гэтага я жадаю, каб саюз гэны паўстаў як найхутчэй.

Варшава. 8.VIII.1936. *Пётр Ластаўка.*

АД РЭДАКЦЫІ. Зьмяшчаючы вышэй паданае пісьмо маладога беларускага пісьменьніка П. Ластаўкі, хочам так-жа выказаць свой пагляд на закранутую ім справу. — Вось-жа думка стварэньня арганізацыі беларускіх пісьменьнікаў ня новая, але закінутая,—бязумоўна важная — і добра, што яе грам. М. Танк ажывіў. Закінута гэта думка была дзеля таго, што ня было ніякіх надзеяў на тое, што статут такое беларускае арганізацыі адмін. ўлады зацьвердзяць Цяпер надзеі гэтыя не пабольшыліся, але гэта ня значыць, каб у кірунку стварэньня арганізацыі беларускіх пісьменьнікаў нічога не рабіць. Трэба рабіць і нават зараз, неадкладна. Толькі, на наш пагляд, трэба, каб за арганізацыю ўзяліся выключна маладыя сілы, каторыя між сабой, міма розьніц у паглядах, могуць лягчэй паразумецца. Прытым трэба тварыць ня толькі вылучна „Саюз Бел. Пісьм.“, але разам і газэтных працаўнікоў, г. зн. „Саюз Беларускіх Пісьменьнікаў і Журналістаў“. Калі ўдасца стварыць гэту арганізацыю і калі ўлады зацьвердзяць ейны статут, будзе вельмі добра, калі-ж не,—будзем мець цэнны дакумант аб тым, у якіх варунках жылі.

## U Hišpanii dalej bjucca



U Hišpanii dalej jduć zaŭziatyja i niazvyčajna žorstka-kryvavyja zmahańni za ŭładu. Mima taho, što starońniki ŭradu bjucca vielmi zaŭziata, pieramoha pierachilajecca na staranu paŭstancaŭ-nacyjanalistaŭ. — U radoch starońnikaŭ uradu zmahajucca i žančyny, jakich bačym na źnimcy.

## Z KRAJU

### Vialikaje świata ŭ Miadźviedzičach.

(*Jubilej Ks. P. Tatarynoviča*).

m ka Miadźviedzičy, Baranavickaha pav. 6-ha žniŭnia sioleta ŭ nas było vialikaje śviata. U hety dzień u nas, jak zaŭsiody, adbyvaŭsia fest. Sioleta adnak jon byŭ asabliva ŭračystym, bo ŭ hety dzień śviatkavaŭ tut 15-tyja ŭhodki ksiandzoŭstva viedamy biełaruski dziejač Ks. Piotr Tatarynovič. U hety tak ža dzień adbyłosia ŭ nas paśviačeńnie novaha domu, zbudavanaha Ks. P Tatarynovičam dziela metaŭ kulturna-praśvietnych bratom biełarusam. Na ŭsie nazvanyja ŭračystaści sabraŭšysia było mnoha ludziej. Byli tak-ža prybyŭšyja z Hrannaha Ks. A. Duliniec i z Delatyč a. Anoška (abodva jany biełarusy).

Treba adznačyć, što Ks. Piotr Tatarynovič źjaŭlajecca vialikim i haračym biełaruskim patryjotam i katalickim piśmiennikam. Jon mnoha piša pabiełarusku, zyčlivy, achviarny, lubić svoj narod, a asabliva moładź, siarod jakoj mnoha ŭžo pracavaŭ. zakładajučy biełaruskija katalickija arhanizacyi, metaj katorych było ŭzhadoŭvać dobrych katalikoŭ i hramadzian, razumnych i dziejnych synoŭ svaje Baćkaŭščyny.

Ks. P. T. źjaŭlajecca taksama dobrym pramoŭcam. Jon moža prahavaryc da moładzi, jakaja achvotna da jaho chiniecca.

Dyk niachaj žyvie pryjaciel bieł. moładzi Ks. P. Tatarynovič!..

*Junak.*

### Пісьмо ў Рэдакцыю „Шлях Моладзі“.

(Зьмяшчаем у арыгінале бяз ніякіх паправак).

„У нас у вёсцы цяпер сумна,
Чытаць німаем мы чаго.
І самі нізнаем за што узятца
І зьвернутца да каго.
Іграць у карты мы ня хочам
Дык так сабраўшыся рагочам.
Цяпер рашылі пастарацца
І за асьвету ўсе узяцца.
Дык просім Вас не адказаць
І нам „Шлях Моладзі“ прысланць“.

*Сяляне з Маладэчаншчыны.*

### Revizija ŭ hurtku Biełaruskaha Instytutu Hasp. i Kultury.

v. Charki, Pastaŭskaha pav. Niadaŭna hurtok Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ našaj vioscy naviedaŭ pavietavy referent biaśpiečnaści, katory pierahladaŭ biblijateku i ŭsiu kancelaryju hurtka, adznačajučy niedachopy ŭ joj, katoryja ŭrad hurtka zaraz vypaŭniŭ. Apošnim časam naš hurtok BIHiK raźvivaje davoli žyvuju dziejnaść, asabliva ŭ halinie samaaśviety.

*M—ś.*

# Нязвычайныя падзеі ў СССР

Ад 19 да 25 жніўня сёлета ў Маскве адбыўся працэс вялікіх калісьці камуністычных дзеячоў, каторых савецкія ўлады абвінавачвалі ў супрацоўніцтве з нямецкай гітлераўскай палітычнай паліцыяй і ў арганізаваньні забойстваў вялікіх савецкіх валадароў, як Кіраў (каторага забілі), Сталін, Варашылаў і інш. Абвінавачвалі іх так-жа і за супрацоўніцтва з Троцкім, які, як ведама, незгаджаецца з палітыкай Сталіна і ёй супраціўляецца. Сярод абвінавачаных былі такія вялікія „рыбы“, як Зіна ўёў — колішні старшыня Камінтэрну і б. кіраўнік рэвалюцыйнае прапаганды ва ўсім сьвеце, Каменяў—б віцэ-старшыня Рады Камісараў СССР, Смірноў—б. прэм'ер СССР і 13 іншых, якія займалі ў камуністычнай партыі і ў савецкіх урадах высокія становішчы. Усе яны „каяліся“, б'ючы паклоны Сталіну і абвінавачвалі сябе так, як гэта рабіў пракурор, хоць ніхто здаецца ў сапраўднасьць іх віноўнасьці ня верыў. Міма гэтага, усіх іх засудзілі на сьмерць і зараз-жа разстралялі.

Рэха кашмарнага маскоўскага працэсу пранeслося па ўсім сьвеце, выклікаючы ўсюды зьдзіўленьне і розныя гутаркі.—Чым аднак фактычна гэты працэс быў, цяжка разгадаць, тым больш, што зьяўляецца ён пачаткам хвалі новых судоў над ня менш важнымі старымі камуністычнымі дзеячамі, як Радак і інш Цяпер ва ўсім СССР ідзе чыстка, а ГПУ праводзіць масавыя арышты. У Сав. Украіне часта бываюць,быццам,забурэньні.

Трэба сказаць, што маскоўскі працэс і разстрэлы далі належнае пасьведчаньне аб камуністычнай маральнасьці, судох, свабодзе і кам. дэмократызме. Суд гэты сярод дэмократаў выклікаў абурэньне. Фашысты ўзноў цешацца, што камуністы адзін другога забіваюць. Іншыя ўзноў цьвердзяць, што працэс гэны прычыніцца да развалу „народных фронтаў“ і што зьяўляецца ён пачаткам вялікіх зьменаў у СССР.



Савецкія танкі ў паходзе на „Краснай Плошчадзі“ ў Маскве.

## CHRONIKA

### Z biełaruskaha žyćcia

**Sudy.** — 28 i 29 žniŭnia sioleta ŭ Vilenskim Haradzkim Sudzie adbylisia 4 sudovyja spravy biełaruskich publicystaŭ. Sudzili: redaktara „Biełaruskaj Krynicy" hram. J. Paźniaka i dr. St. Hrynkieviča — aŭtara skanfiskavanaje sioleta knižki p. n. „Aśvieta." U adnej spravie red. J. Paźniak zasudžany na 1 miesiac aryštu, 100 zł. štrafu i 15 zł. sudovych koštaŭ; u druhoj 1 tydzień aryštu, 100 zł. štrafu i taksama 15 zł. sudovych koštaŭ; treciaja sprava red. J. P. adłožana na 25 vieraśnia. Dr. St. Hrynkieviča, padobna jak i red. J. P., zasudziŭ Sud na 1 tyd. aryštu, 100 zł. štrafu i 15 zł. sudovych koštaŭ. Abodva zasudžanyja padali apelacyju.

**BNA stała admaŭlajecca supracoŭničać z KPZB.** U Nr. 35 (676) „Bieł. Krynicy" sioleta źmieščany čarhovy, šosty Kamunikat Prezydyjumu Biełaruskaha Narodnaha Abjednańnia, katorym BNA adkazvaje na novuju prapazyku Centr. K-tu Kamunistyčnaje Partyi Zachodniaje Biełarusi ŭ spravie supracoŭnictva z KPZB, supolnaha zmahańnia z fašyzmam i ŭstupleńnie BNA u h. zv. „Narodny Front." Abiedźvie hetyja prapazyki KPZB Prezydyjum BNA adkidaje z pryčyn vykazanych užo ŭ papiarednich Kamunikatach, śćviardžajučy adnačasna, što Kamunistyčnaja Partyja Zach. Biełarusi padlahaje zahadam Polskaj Kamunistyčnaj Partyi, viadzie siarod biełarusaŭ internacyjanalnuju akcyju, nie dacaniajučy nacyjanalna-kulturnaj pracy i nietalerantna adnosicca da ŭsiaho biełaruskaha. Da „Narodnaha Frontu" BNA zajmaje stanovišča ŭstrymana-krytyčnaje, bo „Front" hety dasiul nia vyjaviŭ vyraznaha stanovišča adnosna Biełaruskaha Narodu. Urešcie ŭ spravie supolnaj baraćby z bieł. fašyzmam BNA nia bačyć patreby supracoŭnictva z KPZB, bo ŭ sučasny mament biełaruskija fašysty nie pradstaŭlajuć u narodzie arhanizawanaj i wialikaj siły.

**XII Kanhres Nacyjanalnych Mienšaściaŭ i Biełarusy.** 16 i 17 vieraśnia sioleta ŭ Ženevie (Švajcaryja) adbyŭsia čarhovy, XII Kanhres Nacyjanalnych Mienšaściaŭ, na katorym byli abhavorany spravy nacyjanalnych mienšaściaŭ u Eŭropie, a tak-ža dyskusija ab rearhanizacyi Lihi Narodaŭ. Na Kanhres hety byli, miž inšymi, zaprošany Biełarusy ŭ asobie Bieł. Nacyjanalnaha Kamitetu ŭ Vilni, nažal, adnak asabista ŭdziełu Biełarusy ŭ hetym Kanhresie z pryčyn ad siabie niezaležnych nie zmahli uziać, ahraničajučysia da vysyłki pryvitańnia i apisańnia sučasnaha pałažeńnia Biełarusaŭ.

**Zaklik BNK.** Prezydyjum Bieł. Nac. K-tu ŭ Vilni rezalucyjaj z dn. 6.IX.36 zaklikaje ŭsich biełarusaŭ uzmocnić pracu dziela padniaćcia biełaruskaj aśviety ŭsimi mahčymymi sposabami.

---

*Рэдагуе Калегія.*

**Выдаюць: Я. Багдановіч і А. Шутовіч. Рэдактар Я. Найдзюк**

**Novyja biełaruskija pieśni ŭ muzyčnaj apracoŭcy A. Hrečaninava.** Usiośvietnaje słavy kampazytar A. Hrečaninaŭ niadaŭna prysłaŭ z Paryža ŭ Vilniu try novyja biełaruskija narodnyja pieśni, katoryja jon sioleta zharmanizavaŭ na miašany chor. Pieršaja z hetych pieśniaŭ: „Kukavała ziaziula," druhaja — „Zialon haj" i treciaja „Oj hyla, hyla." Pieśni hetyja pryśviaciŭ kampazytar viedamamu źbiralniku bieł. pieśniaŭ i rehientu hram. R. Šyrmie.

**Biełaruskija kalendary na 1937 h.** Daviedvajemsia, što ŭ chutkim časie vyjduć z druku: „Biełaruski Adryŭny Kalendar na 1937 h. (łacinkaj, „polskimi litarami"), „Беларускі Адрыўны Календар на 1937 г. (гражданкай, „рускімі літарамі"). Aprača hetych kalendaroŭ drukujucca: „Беларускі Сялянскі Календар на 1937 г." (кніжка), źmiest jakoha maje być vielmi bahaty i cikavy, i „Беларускі Народна-Гаспадарскі Календар на 1937 г." taksama knižkaj.

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

**„Лёкай на гадзіну"** — водэвіль у 1 дзеі. З расейскае мовы пераклаў М. Ш. Бач. 23. Фармат 16°. Вільня 1936 г. Цана 40 гр.

П'еска гэтая зьяўляецца сатырай на мяшчанскае жыцьцё. Прадстаўляе яна абразок з жыцьця аднаго дырэктара. Дырэктар гэты меў лёкая, які спрытна рознымі спосабамі яго абкрадаў і да таго, убраўшыся ў дырэктарскую адзежу а будучы крыху падобным сваім вонкавым выглядам да свайго дырэктара, часта яго ў розных мясцох кампраміпаваў. За гэта дырэктар звольніў свайго лёкая са службы. Часова функцыю лёкая спаўняць бярэцца дырэктар сам. І тут наступае цэлы рад гумарыстычных сцэнаў. Дырэктар, спаўняючы функцыю свайго лёкая, у працягу прыблізна гадзіны адкрывае розныя махінацыі былага свайго лёкая і сапраўдныя, благія адносіны да яго сваіх знаёмых, каторыя яго ўсялякімі спосабамі абманвалі. У водэвілі падчыркнута маральная сапсутасьць мяшчанства. Справа гэта асабліва актуальная сяньня, у часе агульнага маральнага ўпадку.

**Arhanizacyjny Statut Biełaruskaha Narodnaha Abjednańnia — BNA i Instrukcyja-parada, jak twaryć arhanizacyi Biełaruskaha Narodnaha Abjednańnia — BNA.** Vilnia 1936. Vyd.: C.K.—Bieł. Narod. Abjednańnia. Bač. 24. Far. 8°. Cana 10 hr. Knižyca heta cikavaja nia tolki dla beenaŭcaŭ (siabroŭ BNA), ale tak-ža i dla inšych biełarusaŭ, bo jość u joj šmat karysnych paradaŭ dziela hramadzkaje biełaruskaje pracy.

### Адказу „Нашай Волі" ня будзе.

„Наша Воля" у № 12(13) сёлета зьмясьціла артыкул, у якім йзноў нападала на М. Машару і „Шлях Моладзі". Прычыны гэтых беспадстаўных нападкаў усім, хто пільна сочыць за бел. жыцьцём, ведамы. Ад закідаў „Н. В." бараніцца мы ня думалі. У сувязі йзноў з тым, што нядаўна ўлады часапіс гэны „завесілі" і дзеля таго, што трымаемся прынцыпу: „ляжачага ня біць" — адказываць „Нашай Волі" ня будзем.

Pierasyłka apłačana ryčałtam

## USIAČYNA

— Niadaŭna Polšč adviedaŭ francuski hien. Gamelen, a Francyju — hien. Rydz-šmigły. Paśla hetaha adviedaŭ Polšč francuski ministr handlu Bastid. Pajezdki henych hienerałaŭ i ministra pryčynilisia da palepšańnia francuska-polskich adnosinaŭ, a tak-ža da taho, što Francyja dała Polščy pazyčku, jakaja maje pajšci na vajennyja zbrajeńni.

— U stalicy Belhii, m. Brukseli, sioleta na pačatku m-ca vieraśnia adbyŭsia Mižnarodny Kanhres Miru, a tak-ža ŭsiaśvietny Kanhres Moładzi, na katorym, miž inšym, taksama abhavarvalisia sposaby zmahańnia z vajennymi nastrojami. Na abodvych hetych kanhresach nia było pradstaŭnikoŭ z Niamieččyny, Polščy i Italii.

— U Norymberzie (Niamieččyna) na kanhresie hitleroŭcaŭ, jaki adbyŭsia sioleta ŭ m-cy vieraśni, Hitler vostra vystupaŭ pracіŭ SSSR i zajaviŭ, što Niamieččyna damahajecca kalonijaŭ. Na kanhresie hetym była i hitleraŭskaja moładź u liku kala 50 tysiač asob.

— U Palestynie araby dalej bjucca z žydami.

## SPORT

— Viedamy biełaruski spartoviec Jury Kiepiel z Vilni na vypieradkach łodkami na race Sekvana ŭ Paryžy (Francyja) zaniaŭ pieršaje miesca pierahaniajučy słaŭnych francuskich i niamieckich vieślaroŭ-spartoŭcaŭ. Hetym samym J. Kiepiel zdabyŭ tytuł hieroja („mistrza") Sekvany.

— Akančalnyja vyniki sioletnich olimpijskich ihraŭ u Berlinie pradstaŭlajucca, pavodle padličeńniaŭ na punkty, nastupna: 1) Niamieččyna atrymała 175 punktaŭ, 2) Ameryka — 124, 3) Italija 47, 4) Finlandyja — 39, 5) Francyja — 39, 6) Madziarščyna — 37, 7) švecyja — 35, 8) Japonija — 34, 9) Halandyja — 30, 10) Anhlija — 29, 11) Aŭstryja — 27, 12) švajcaryja — 26, 13) čechasłavaččyna — 19, 14) Arhientyna — 15, 15) Kanada — 14, 16) Estonija — 13, 17) Norvehija — 11, 18) Ehipt—10, 19) Polšč — 9, 20) Danija — 7, 21) Tureččyna — 4, 22) Indyja — 3, 23) N. Zelandzija — 3, 24) Łatvija — 3, 25) Meksyk—3, 26) Juhasłavija—2, 27) Rumynija—2, 28) Paŭdn. Afryka — 2, 29) Belhija — 2, 31) Aŭstralija —1, 31) Filipiny — 1, 32) Portuhalija — 1. Inšyja dziaržavy nie atrymali ani adnaho punktu, bo ichnija spartoŭcy nie zdabyli nijakich olimpijskich naharodaŭ (miadaloŭ).

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

P. Łastaŭcy: Atrymali, dziakujem, adkaz budzie piśmom. Artykuł „Mašara—Tank", kab nie zavastrać sporu, pakulšto adkładajem.

M. Kazłu: Vaš tvor słaby i da druku nie padchodzić. Pišycie lepš prozaj, pačynajučy ad karespandencyjaŭ z žyćcia vioski.

J. č — kamu: Prośbu spoŭnili, druki vysłali. Pryvitańnie!..

P. Ramančuku: Matarjały atrymali, nažal, usio słaboje i da druku nie padchodzie. Napišycie što-niebudź z žyćcia moładzi ŭ vas. Pryvitańnie!

С. Хмары: Матар'ялы атрымалі і ўсё перадалі ў „Калосьсе", бо з прычыны нестачы месца ў гэтым нумары нічога не маглі зьмясьціць.

В. Хомцы: Дзякуем за мілы ліст. Вершы слабыя. Радзім пісаць прозай. Просім напісаць штось аб жыцьці моладзі ў Вашай старонцы.

Ятраўскаму: Карэспандэнцыі нажаль надрукаваць ня можам, бо ня пройдзе яна праз цэнзуру. Прыміце шчырыя словы спачуцьця.

R. Vaŭku, T. J — viču, J. Kalinie i M. Kuciecy: Vieršy słabyja. Radzim pisać prozaj i čytać jak najbolš pryhožaje bieł. litaratury.

P. Pie-ku: Knižki vysłali. Napišycie, jak žyvie i pracuje ŭ Vas moładź.

„Лісточку": Верш слабенькі, але будзем старацца яго надрукаваць, бо ён вельмі актуальны.

Н. Жальбе: Вершы нажаль слабыя. Штось заснула Ваша муза. Трэба яе разбудзіць.

Забоце, Думнаму і Зайкоўскаму: Ані вершы, ані карэспандэнцыі ня пройдуць праз цэнзуру і дзеля гэтага ня можам іх надрукаваць.